Жыве Беларусь!



# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 589 Люты, 2012 г.
Год выданьня 63

## Шаноўныя чытачы!

Прадстаўляем вашай увазе чарговы лютаўскі нумар газэты. Ён выходзіць напярэдадні нашага вялікага Сьвята - 25 Сакавіка, якое мы зараз часьцей называем Днём Волі.

Мы друкуем у гэтым нумары перадсьвяточныя дакумэнты і інфармацыі. Пра тое, як адбудзецца сьвяткаваньне ў беларускіх асяродках і на Бацькаўшчыне, вы зможаце прачытаць ў наступным сакавіцкім нумары.

Сёлетняе сьвяткаваньне будзе праходзіць, як выглядае, у Беларусі ў вельмі неспрыяльных умовах. Дыктатарскі рэжым узмацняе рэпрэсіі супроць апазыцыі, палітвязьні застаюцца ў турмах, пагоршыліся адносіны беларускіх уладаў з Эўразьвязам, паслы эўрапейскіх краінаў пакінулі Менск. Так што добрых навінаў з Бацькаўшчыны мы не маглі вам падаць. Аднак гэта тычыцца больш палітычнай сытуацыі. Беларускае жыцьцё працягваецца як на Радзіме, так і ў замежжы. Сьвядомая, патрыятычная частка нацыі працягвае змаганьне за волю, дэмакратыю, за нацыянальнае разьвіцьцё краіны, яе культуры і мовы. Пра гэта вы знойдзеце інфармацыі на старонках газэты.

Хочам зьвярнуць вашу увагу на тое, што ў гэтым нумары мы падаем абвестку пра расклад службаў і іншыя патрэбныя зьвесткі пра рэлігійнае жыцьцё ў Нью-Ёрку, якое канцэнтруецца у Катэдральным саборы сьв. Кірылы Тураўскага на Atlantic Ave, 401 у Брукліне.

Калі ласка, выказвайце нам вашыя пажаданьні, якія тэмы яшчэ вы б хацелі бачыць у газэце, дасылайце свае інфармацыі пра навіны з беларускіх асяродкаў у Амэрыцы і іншых краінах. Цяпер ў замежжы выдаецца няшмат беларускіх газэтаў і мы гатовыя прадстаўляць вам свае старонкі.

*Рэдакцыя*

## ВІНШУЕМ З НАДЫХОДЗЯЧЫМ СЬВЯТАМ - ДНЁМ ВОЛІ




## САКАВІКОВЫ ЗВАРОТ СТАРШЫНІ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, віншую Вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам - Днём Волі, калі наш народ пасьля доўгага прыгнёту абвесьціў сьвету, што ён хоча быць гаспадаром на сваёй зямлі.

Здабылі мы незалежнасьць 25-га Сакавіка 1918 году і зьбераглі дасюль ідэалы БНР, ня гледзячы на шматлікія перашкоды, таму што былі між намі героі, якія разумелі цану, волі й бясконца любілі свой край і свой народ.

Гэтае маё Сакавіковае прывітаньне хачу прысьвяціць аднаму з нашых сучасных герояў, над жыцьцём якога варожы рэжым зьдзекуецца сёньня - Сяргею Каваленку. Сяргей дужы, адважны патрыёт, ён вырашыў па-свойму змагацца за волю і ўзьлез на калядную ялінку ў Віцебску зь бел-чырвона-белым сьцягам у руках. Ворагі беларушчыны не могуць дараваць яму гэты сьмелы ўчынак і намагаюцца зьнішчыць яго, кінуўшы за краты.

Словы, якія Сяргей перадаў нам праз сваю жонку Алену, застануцца ў сэрцы кожнага беларуса. Сяргей папрасіў каб сьвяткавалі Дзень Волі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі ў руках. Гэта будзе падтрымкай і для яго. Ён заявіў, што дабрабыту ня можа быць без культуры, а падмуркам культуры зьяўляецца родная мова, і што трэба шанаваць свае нацыянальныя каштоўнасьці - гісторыю і мову. Сяргей сказаў, што мы самі - наш беларускі народ - уратуем сваю краіну, і толькі тады падтрымаюць нас іншыя краіны. Таксама сказаў, што толькі беларускі народ можа памагчы яму выйсьці з цяжкога стану, ў якім ён знаходзіцца.

Дарагія суродзічы, не расчаруйма героя! Ён верыць у нашую беларускасьць і ў нашую мужнасьць. Ён верыць у свой народ і гатовы аддаць сваё жыцьцё дзеля гэтае веры. Будзьма годнымі героя! Як напісаў Антось са Слуцку: НАША ЧАРГА ДЗЕЙНІЧАЦЬ! Кожны чым і як можа. Дзесяць мільёнаў галасоў не застануцца без адказу! Дык памажы нам, Божа! Памажы, Божа, Сяргею Каваленку!

Жыве Беларусь!

*Івонка Сурвілла*

# Жыцьцё Сяргея Каваленкі пад пагрозаю



24 лютага сябру КХП БНФ Сяргея Каваленку судзьдзя Алена Жук асудзіла на 2 гады 1 месяц калёніі агульнага рэжыму. Родных Каваленкі, журналістаў, праваабаронцаў і грамадзкіх дзеячоў у залю суду не пусьцілі.

Супрацоўнікі крымінальна-выканаўчай інспэкцыі ініцыявалі супраць яго справу за парушэньне рэжыму «хатняй хіміі» — умоўнага пакараньня, прысуджанага за бел-чырвона-белы сьцяг, вывешаны на гарадзкой навагодняй ёлцы ў 2010 годзе.

Сяргей Каваленка распачаў галадоўку на знак пратэсту супраць крымінальнага перасьледу: да яго неаднаразова зьвярталіся з просьбамі спыніць галадаваньне, але яно было настолькі працяглае, што цяпер яму патрабуецца неадкладная мэдычная дапамога, каб бяз шкоды для здароўя выйсьці з гэтага стану. Жыцьцё яго знаходзіцца пад вялікаю пагрозаю.

# Справа Каваленкі жыве!



У той час, калі ішоў суд над Сяргеем Каваленкам, у Віцебску на прасьпекце Перамогі быў вывешаны бел-чырвона-белы сьцяг.

Каб зьняць “няправільны” сьцяг, былі прыцягнуты сілы розных гарадзкіх службаў на 8 машынах. Аперацыя па-зьняцьці сьцяга працягвалася больш за дзьве з паловаю гадзіны.

# Ганс-Георг Вік пра Раду БНР

Першага сакавіка сёлета на сайце радыё "Свабода" (РС) адбылася анлайнавая канфэрэнцыя зь ведамым нямецкім дыпляматам Гансам-Георгам Вікам. Слухачка РС Каця, жыхарка гораду Слоніму, задала яму два пытаньні:

"Што Вы ведаеце аб Беларускай Народнай Рэспубліцы? І ад якой даты адлічваеце паўстаньне сучаснай беларускай дзяржаўнасьці?"

На першае пытаньне сп. Вік нічога не адказаў. Дый з другім адаслаў Кацю да іншых аўтарытэтаў, сказаўшы адно: "Вы можаце абмеркаваць гэтае пытаньне аб этапах разьвіцьця беларускай дзяржаўнасьці сярод гісторыкаў ды іншых навукоўцаў Беларусі".

Зь ягоных адказаў Каці выглядае, што веды ў яго пра БНР даволі прыблізныя. Ды гэта й зразумела: у разнастайнай службовай дзейнасьці сп. Віку трэба было займацца больш пільнымі справамі, чымся азнаямленьне з палітычнай гісторыяй Беларусі. Але асноўны факт пра БНР нямецкі дыплямат ведае. Адказваючы на пытаньне іншай слухачкі РС, Ірэны, сп. Вік назваў БНР 1918 году "незалежнай дзяржавай", зазначыўшы пры гэтым, што дзяржава гэтая "была праз хуткі час захопленая камуністамі". Але Ірэна хацела пачуць больш ад уплывовага замежнага дыплямата. 'Ці не лічыце Вы, - папыталася яна, - што, каб прадухіліць зьнішчэньне Беларусі, варта Радзе БНР надаць статус часовага ўраду Беларусі, ці ўраду на выгнаньні? Хто, на Ваш погляд, павінен быў бы ініцыяваць працэдуру?"

Ганс-Георг Вік адразу ж заявіў катэгарычна (хоць невыразна, бо няведама, ад імя якіх дзяжаваў гаварыў): "Рада БНР сёньня ня можа быць прызнанай аніводнай дзяржавай урадам у выгнаньні".

Катэгарычнасьць заявы сп. Віка пра непрызнаваньне Рады БНР абумоўлена, як выглядае, ягонай далейшай заявай. А сказаў ён вось што: "Пасьля антыканстытуцыйнага перавароту ў 1996 ніхто так і не паспрабаваў стварыць эміграцыйны ўрад у замежжы. Пра гэта можна пачаць думаць цяпер (маё падкрэсьленьне - *Я.З.*), улічваючы апошнюю напружанасьць у стасунках паміж ЭЗ і Менскам."

Дык ці не агучвае гэтым сп. Вік (свой асабісты ці калектыўны?) праект стварэньня эміграцыйнага ўраду Беларусі, складзенага з новых беларускіх палітычных эмігрантаў? І калі так, то ён глыбока памыляецца, што гэткі ўрад павінен фармавацца ў абход гістарычнае Рады БНР. Наадварот, усякі беларускі замежны ўрад будзе найбольш абгрунтаваным, калі ён будзе сфармаваны на ідэйнай базе Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзейнасьць замежнага ўраду мусіць мець пад сабой гістарычны грунт, ідэйную спадчыну, лёсы папярэдніх дзеячоў-патрыётаў, а таксама прэцэдэнты прызнаваньня Рады як інстытуцыі й Рады як носьбіта ідэі незалежнае беларускае дэмакратычнае дзяржавы.

Хоць дыпляматычная гісторыя Беларускай Народнай Рэспублікі й Рады БНР вывучаная толькі ў агульных абрысах, факты прызнаньня Рады БНР як ураду на выгнаньні, асабліва прызнаньня de facto, агульнаведамыя. Рада БНР, пры розных старшынях, была прызнаваная праз супрацоўніцтва зь ёю з боку розных урадаў у розныя часы. Варта прыгадаць тут супрацоўніцтва Рады пад старшынствам Пётры Крэчэўскага з чэхаславацкім урадам, а пад старшынствам Міколы Абрамчыка - з уладамі Злучаных Штатаў. Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла ў нядаўным часе правяла шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі ўрадаў у сталіцах Чэхіі, Польшчы, Эстоніі й Латвіі. Нават урад Рэспублікі Беларусь на пачатку 1990-х прызнаў быў de facto Раду БНР пад старшынствам Язэпа Сажыча, калі міністэрства замежных справаў РБ рабіла намаганьні пераняць ад Рады БНР ейны мандат. Як ведама, на такі перадчасны крок Рада БНР не пайшла. Яна працягвае сваю дзейнасьць пад старшынствам Івонкі Сурвіллы ды паступова папаўняецца (да ведама сп. Віка) новымі сябрамі з сучаснай Беларусі.

*Янка Запруднік*

# Сьвяткуем Дзень Волі ў Нью-Ёрку




25 сакавіка 1918 году сталася самай адметнаю падзеяю ў новай гісторыі Беларусі. Гэта дата ўвайшла ў нацыянальную гісторыю як вялікае Сьвята аднаўленьня дзяржаўнай незалежнасьці, якую беларускі народ страціў перад гэтым на цэлыя два стагоддзі. Кожны год па цэлым сьвеце ўсе тыя беларусы, каму дарагая іхная Бацькаўшчына і яе лёс, ушаноўваюць Акт 25 Сакавіка, якім была абвешчана незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА), Бруклінскі аддзел БАЗА, Парафіяльная рада Сабору БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку віншуюць усіх сваіх сяброў, усіх беларусаў Амэрыкі, грамадзянаў Беларусі і ўсю беларускую супольнасьць па цэлым сьвеце з надыходзячым Днём Волі!

Запрашаем на ўрачыстую імпрэзу, прысьвечаную 94-м угодкам абвяшчэньня незалежнасьці БНР, якая адбудзецца 25 сакавіка 2012 году ў грамадзкай залі на 401 Atlantic Ave у Брукліне.

Пачатак імпрэзы ў 1:00 па паўдні, раніцаю ў 10:00 у царкве пачнецца Літургія, і будзе адслужаны малебен за Беларусь.

У сьвяткаваньні прыме асабісты ўдзел дзейсная Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі сп. Івонка Сурвілла.

Імпрэза будзе складацца з афіцыйнай часткі і канцэртнай праграмы. Гасьцей таксама чакае смачны абед, сустрэчы з сябрамі і новыя знаёмствы.

Кошт абеду – 25 даляраў.

Даезд: цягнікі Q, B, D, N, R, 2,3,4,5 да прыпынку Atlantic Ave–Pacific Str; A, C, G – да прыпынку Hoyt-Schermerhorn; F – да прыпынку Bergen Str.

# Сусьветная акцыя "Палітвязьні і Чэмпіянат 2014"

У прынятым напрыканцы мінулага году Кангрэсам ЗША "Акце аб дэмакратыі і правах чалавека ў Беларусі" ёсьць зварот да Міжнароднай фэдэрацыі хакею (на лёдзе) зьмяніць намер правесьці ў 2014 годзе чэмпіянат сьвету па хакеі ў Менску аж пакуль улады Беларусі не вызваляць усіх палітычных вязьняў. У лютым Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА) дзеля падтрымкі гэтага звароту выступіла з ініцыятываю правядзеньня Сусьветнай акцыі "Палітвязьні і Чэмпіянат 2014". Наш зварот быў разасланы беларускім арганізацыям у замежжы і ў Беларусі (тэкст падаецца ніжэй).

Першыя водгукі на заклік БАЗА прыйшлі ад Радыё Свабода, рэдакцыі газэты "Наша Ніва", Хартыі-97 з мноствам камэнтароў у падтрымку, а таксама ад асобных сяброў БАЗА і іншых арганізацый.

Сёлета чэмпіянат будзе праходзіць у траўні ў Швэцыі і Фінляндыі. Як стала вядома, на запыт швэдзкай сэкцыі Міжнароднай Амністыі быў атрыманы адказ, што пытаньне пра магчымую зьмену месца правядзеньня чэмпіянату 2014 году будзе паднятае на пленарным пасяджэньні Фэдэрацыі хакею ў Гэльсынкі.

Таксама сайт www.freebelarusnow.org ужо доўгі час спалучае правядзеньне Чэмпіянату ў Беларусі з вызваленьнем палітычных вязьняў.

1 сакавіка БАЗА разаслала паведамленьне пра яшчэ адну падобную ініцыятыву, выказаную Петрам Штэсным, славацкім хакеістам, які ёсьць зоркаю сусьветнага хакею, а цяпер зьяўляецца дэпутатам Эўрапарлямэнту, сумесна з другім дэпутатам Эўрапарлямэнту Маркам Мігальскім.

Паглядзець інфармацыю можна на сайце: http://www.change.org/petitions/iihf-suspend-the-2014-ice-hockey-championship-in-belarus.

На гэтым сайце зьмешчаны петыцыя і наступны зварот: "Патрабуйце ад міжнароднай фэдэрацыі хакею адмяніць рашэньне аб правядзеньні чэмпіянату сьвету па хакеі ў Беларусі ў 2014 годзе, калі Аляксандр Лукашэнка не адпусьціць усіх палітзьняволеных і не ўвядзе мараторый на сьмяротнае пакараньне".

Падпішыце, калі ласка, гэтую петыцыю і дапамажыце распаўсюдзіць інфармацыю пра гэтую кампанію, якая можа ўратаваць жыцьці вядомых людзей! Тэкст звароту Галоўнай управы БАЗА аб разгортваньні Сусьветнай акцыі "Палітвязьні і Чэмпіянат 2014":

"Паважаныя сябры!

Усе мы, хто жывём у вольным сьвеце, павінны сёньня ўзяць на сябе адказнасьць дамагчыся вызваленьня і рэабілітацыі ўсіх палітычных вязьняў у Беларусі. Адзіны чалавек, які можа зараз неадкладна выканаць нашае патрабаваньне, гэта Аляксандр Лукашэнка. Дзеля гэтага трэба разгарнуць сусьветную акцыю, якая пагрозіць Лукашэнку, што той трыюмфальны для яго чэмпіянат сьвету па хакеі, які мае праходзіць у Беларусі ў 2014 годзе, можа не адбыцца або можа быць байкатаваны многімі краінамі.

Выкарыстайце свае магчымасьці ў пашырэньні гэтай акцыі сярод беларускага грамадзтва ў сьвеце, сярод сусьветнай моладзі, якая цікавіцца спортам і адначасова правамі чалавека, сярод прадстаўнікоў грамадзтва і палітыкаў вольнага сьвету, хай яны ў сваю чаргу ўплываюць на ўсе адпаведныя ўстановы, а тыя на таго чалавека, які павінен вызваліць усіх палітычных вязьняў у Беларусі – на Аляксандра Лукашэнку".

*Галоўная управа БАЗА*

# Сікорскі і Клінтан абмеркавалі беларускую праблему



Дзяржсакратар ЗША Гілары Клінтан і кіраўнік Міністэрства замежных справаў Польшчы Радаслаў Сікорскі ў Вашынгтоне абмеркавалі сытуацыю ў Беларусі.

"Мы абмеркавалі Беларусь і мы выпрацавалі пляны супрацоўнічаць яшчэ шчыльней у справе маніторынгу разьвіцьця падзеяў у Беларусі", – заявіў у Вашынгтоне Радаслаў Сікорскі на прэсавай канфэрэнцыі па выніках сустрэчы з дзяржсакратаркай ЗША Гілары Клінтан.

У пэрыяд пацяпленьня дачыненьняў паміж афіцыйным Менскам і Брусэлем Польшча была адным зь ініцыятараў наладжваньня дыялёгу з беларускімі ўладамі. Пасля разгону паслявыбарчых пратэстаў у Менску 19 снежня 2010 году Варшава стала найбольш актыўным у Эўропе лабістам узмацненьня міжнародных санкцыяў супраць кіраўніцтва Беларусі.

Санкцыі ЗША супраць афіцыйнага Менску зьяўляюцца на гэты момант значна больш жорсткімі і шырокімі, чым эўрапейскія.

*8 сакавіка 2012*

# Апошні дыктатар




У Лёндане адбыўся прагляд фільму "Апошні дыктатар Эўропы" Прэм'еру арганізавалі ініцыятыва «Free Belarus Now» і кампанія «Guerilla Pictures». Лідэр «Free Belarus Now» Ірына Багданава, сястра Андрэя Саньнікава, папрасіла прысьвяціць першы паказ фільму Сяргею Каваленку - беларускаму палітзьняволенаму, які ў знак пратэсту галадае ў турме.

У прэзэнтацыі бралі ўдзел былы амбасадар Вялікабрытаніі ў Беларусі Браян Бэнэт, а таксама Джуліян Асанж, заснавальнік WikiLeaks. Асанж паведаміў, што дапамагаў здымаць фільм таму, што ў 2009 годзе асабіста пазнаёміўся з праваабаронцам Алесем Бяляцкім, які цяпер знаходзіцца за кратамі.

Адзін з аўтараў фільму, брытанец Мэцью Чарльз, выязджаў для здымкі ў Беларусь, дзе большую частку працы рабіў патаемна і потым змог пераправіць відэазапісы за мяжу.

# NBC: "Настаў час скончыць з рэжымам Лукашэнкі"

Найбуйнейшы тэлеканал Амэрыкі NBC нядаўна паказаў фільм пра Беларусь у праграме *Rather Reports*. Аўтар фільму – адзін з самых вядомых амэрыканскіх журналістаў Дэн Разер. Ён вёў рэпартажы з Аўганістана і Вьетнама, наўпроставы рэпартаж аб разбурэньні Берлінскай сьцяны, браў інтэрвію у кожнага прэзыдэнта ЗША і многіх вядомых асобаў сусьветнай палітыкі.

Дэн Разер прысутнічаў у мінулым годзе ў Нью-Ёрку на цырымоніі ўзнагароджаньня прэміяй Камітэту абароны журналістаў, дзе слухаў прамову беларускай журналісткі Натальлі Радзінай, а потым і асабіста пазнаёміўся з ёю. Гэтая падзея абудзіла ў яго цікавасьць да беларускай тэмы. Ён вырашыў зьняць фільм пра сучасную Беларусь, дзе забіваюць і саджаюць ў турмы іншадумцаў, дзе ўлады беспакарана распраўляюцца з апазыцыяй, дзе свабода слова – мара, а не рэальнасьць. Прагляд фільму, трэба спадзявацца, абудзіў цікавасьць да сытуацыі ў Беларусі ў многіх звычайных амэрыканцаў і тых палітыкаў, ад каго залежыць, як Амэрыка сёньня можа больш канструктыўна дапамагчы беларусам супроцьстаяць дыктатарскаму рэжыму і дабіцца ягонага разбурэньня.

# Дыпляматычны скандал

27 лютага Рада міністраў замежных справаў краінаў Эўразьвязу прыняла рашэньне пашырыць сьпіс неўязных у краіны ЭЗ прадстаўнікоў беларускай дзяржавы, дадаўшы да яго яшчэ 21 прозьвішча кіраўнікоў міліцыі і высокапастаўленых чыноўнікаў, маючых дачыненьне да рэпрэсіяў. Гэта сталася прычынаю дыпляматычнага скандалу паміж Брусэлем і Менскам. 28 лютага беларускія ўлады рэкамэндавалі кіраўніку Прадстаўніцтва Эўразьвязу ў Беларусі Майры Моры і паслу Польшчы Лешаку Шарэпку выехаць у свае сталіцы для кансультацыяў, каб давесьці свайму кіраўніцтву цьвёрдую пазыцыю беларускага боку аб недапушчальнасьці ціску і санкцый. Гэта фактычна азначала іх высылку з краіны.

У знак салідарнасьці з высланымі шэраг эўрапейскіх дыпляматаў пасьля адмысловай нарады, якую склікала Вярхоўны прадстаўнік Эўразьвязу Кэтрын Эштан у Брусэлі, таксама заявілі аб сваім выездзе з Беларусі дзеля кансультацыяў са сваімі ўрадамі. Паслы краінаў ЭЗ пакінулі Менск 29 лютага.

Праз некаторы час беларускае міністэрства замежных справаў зрабіла спробу паклікаць паслоў назад. Прэс-сакратар МЗС Андрэй Савіных у інтэрвію польскай радыёстанцыі RMF FM сказаў, што Беларусь зацікаўлена ў дыялёгу з Эўразьвязам і беларускія ўлады не ставяць ніякіх умоваў, калі паслы скончылі кансультацыі, то могуць вяртацца назад.

Аднак краіны Эўразьвязу пакуль не сьпяшаюцца ісьці на саступкі беларускім уладам. Скандал працягваецца.

*Ганна Сурмач*

# Саміт ў Брусэлі надзяліў увагу сытуацыі ў Беларусі

Лідэры краінаў Эўразьвязу 2 сакавіка на саміце ў Брусэлі заклікалі Раду Эўропы прыняць далейшыя захады ў адносінах да рэжыму Лукашэнкі. Пра гэта гаворыцца ў выніковым дакумэнце саміта, дзе ёсьць асобны параграф, прысьвечаны беларускаму пытаньню.

Эўрапейскія лідэры выказалі падтрымку курсу на супрацоўніцтва з грамадзкім сэктарам у Беларусі і аказаньню далейшай дапамогі ў справе дэмакратызацыі краіны.

# За заклікі да санкцый - крымінальная справа

Такую заяву зрабіў начальнік упраўленьня па наглядзе за выкананьнем заканадаўства і законнасьцю праваых актаў Павал Радзівонаў.

Як паведамілі 1 сакавіка БелаПАН і БелТА, апазіцыянерам, якія заклікаюць да санкцый у дачыненьні краіны, можа быць абмежаваны выезд за мяжу.

«Генеральная пракуратура канстатуе, што апошнім часам мы сутыкаемся з актывізацыяй дзейнасьці некаторых асоб, якія заклікаюць замежныя дзяржавы і міжнародныя арганізацыі да ўвядзеньня санкцый у дачыненьні да Беларусі, у тым ліку санкцый эканамічнага характару»... Гэта ўжо не простыя папулізм. Гэтыя дзеяньні могуць быць кваліфікаваныя з пункту гледжаньня крымінальнага права, і органы пракуратуры робяць захады, каб растлумачыць гэтым грамадзянам наступствы, якія могуць узьнікнуць. У тым ліку гэта прыцягненьне да крымінальнай адказнасьці», - заявіў Радзівонаў.

# Вяртаньне да ўлады: выбары ў Расеі

4 сакавіка ў Расеі адбыліся прэзыдэнцкія выбары. Як паведаміла Цэнтральная выбарчая камісія, 63.6% выбарцаў прагаласавалі за Уладзіміра Пуціна. Астатнія кандыдаты – Генадзь Зюганаў, Уладзімір Жырыноўскі, Міхаіл Прохараў і Сяргей Міронаў набралі непараўнальна меншыя адсоткі галасоў. Вынік гэтай выбарчай кампаніі быў загадзя прадказальны. Як выглядае, вяртаньне Пуціна да ўлады было сплянавана яшчэ пад час мінулых выбараў, калі ён толькі часова саступіў прэзыдэнцкую пасаду Мядзьведзеву, які нават і не кандыдаваў на другі тэрмін, бо ягоная роля ўжо была адыграная.

# У Гомелі фотаздымкі Ніягарскага вадаспаду прызналі амаральнымі



Кіраўніцтва Гомельскай гарадзкой бібліятэкі імя Герцэна адмяніла фотавыставу Вячаслава Бортніка «Амерыка», адкрыццё якой было заплянаванае на 13 лютага.

Дамоўленасьць пра дату правядзеньня і фармат была дасягнутая з супрацоўнікамі выставачнай залы яшчэ ў лістападзе мінулага года. Бортнік планаваў выставіць каля 30 фотапрацаў, якія адлюстроўваць знакавыя месцы ЗША, уключна з Ніягарскім вадаспадам, Гранд-Каньёнам, хмарачосамі Даласа, пальмамі Лос-Анджэлеса, «Хмарнай брамай» Чыкага, гатэлямі Лас-Вегаса і г. д.

За пяць дзён да адкрыцьця выставы Бортніку патэлефанавала невядомая, якая назвалася куратарам залі, і паведаміла, што выстава не можа быць праведзеная «на маральных падставах». На пытаньне аб тым, што такога амаральнага ў Ніягарскім вадаспадзе або Гранд-Каньёне, яна адказала: «Ну... я не магу Вам гэтага растлумачыць».

«Мяне не вельмі зьдзівіла адмова, - распавядае Вячаслаў Бортнік. - Сама ідэя амерыканскай выставы зьявілася паўтара гады таму, але ўсё неяк не складалася. То асьцярогі супрацоўнікаў залі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, то бясконцыя пераносы дат, то мае ад'езды. Нарэшце, вызначыліся з датамі, я надрукаваў палову матэрыялу, разаслаў мноства запрашэньняў на адкрыцьцё, паклікаў музыкаў, запрасіў мясцовую прэсу... І вось - адмова. Падобна да таго, што ў нашых чыноўнікаў гэта ўжо не проста ўнутраная самацэнзура, а самая сапраўдная параноя».



# У Нью-Ёрку паказалі новы фільм беларускіх кінадакументалістаў

23 лютага ў Нью-Ёрку ў грамадзкай залі пры Саборы БАПЦ Св. Кірылы Тураўскага незалежныя беларускія кінарэжысэры Андрэй Куціла і Вячаслаў Ракіцкі прэзэнтавалі свой фільм "Даволі! Да Волі...".

Дакумэнтальная стужка была зьнятая на замову тэлеканала "Белсат" да гадавіны падзеяў 19 сьнежня 2010 году. У ёй распавядаецца пра лёсы людзей, якім надакучыла жыць у хлусьні і якія выйшлі на мірную акцыю пратэсту, за што былі кінутыя ў турмы, перанесьлі маральныя і фізычныя катаваньні, страцілі вучобу і працу.

Адбылася размова пра цяперашнюю сытуацыю ў Беларусі, выбар людзей мастацтва, культуры, навукі ва ўмовах адсутнасьці свабоды творчасьці. Вячаслаў Ракіцкі і Андрэй Куціла расказалі пра тое, як стваралася кінастужка, пра тое, што засталося па-за кадрам, як складваюцца лёсы герояў сёньня.

Асабліва занепакоена вялася гаворка пра палітвязьняў, якія застаюцца за кратамі. Сябра Галоўнай управы Беларуска-амэрыканскага Задзіночаньня Вячка Станкевіч распавёў пра ініцыятыву БАЗА правесьці сусьветную акцыю супраць правядзеньня чэмпіянату сьвету па хакеі ў Беларусі, калі ня будуць вызвалены з турмаў усе палітвязьні.

У сустрэчы з беларусамі Нью-Ёрку ўзялі ўдзел і іншыя незалежныя беларускія кінадакумэнталісты, якія знаходзіліся ў Амэрыцы на запрашэньне Дзяржаўнанга дэпартамэнту ЗША паводле праграмы "Вытворчасьць дакумэнтальнага кіно ў ЗША".



*Удзельнікі сустрэчы*

# У Літве беларуская суполка судзіцца з Мінюстам за Бяляцкага

Згуртаванне беларускай моладзі Віленшчыны судзіцца з Міністэрствам юстыцыі Літвы наконт перадачы дадзеных пра рахункі беларускіх праваабаронцаў рэпрэсіўным органам Беларусі. Адбыўся разгляд справы ў Віленскім акруговым адміністрацыйным судзе. Скарга была пададзеная летась, пасьля затрыманьня беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага. Згуртаваньне зьвярнулася ў Міністэрства юстыцыі Літвы з просьбай адклікаць звесткі пра банкаўскія рахункі беларускіх праваабаронцаў і грамадскіх дзеячаў, якую Літва перадала ў Беларусь.

Кіраўнік Згуртавання беларускай моладзі Віленшчыны Валеры Савянкоў(зьлева) і прадстаўнік мінюсту Літвы Аляксандрас Івановас (справа) на слуханьнях у судзе.

Ліст літоўскага міністэрства юстыцыі, накіраваны ў Беларусь 24 жніўня 2011 г., з просьбай «лічыць перададзеныя звесткі аб рахунках А.Бяляцкага і В.Стэфановіча ў банках Літвы несапраўднымі», арганізацыя называе недастатковым крокам, бо гэта не перашкодзіла беларускім уладам асудзіць А.Бяляцкага на падставе дадзеных, атрыманых з Літвы.

На пытанне пазоўніка ў часе судовага разбіральніцтва аб тым, ці была афіцыйная пячатка на арыгінале гэтага ліста і на якой мове быў арыгінал, прадстаўнік Мінюста Літвы Аляксандрас Івановас адказаў аднолькава: «Не магу сказаць».

Гэткім жа быў адказ на пытанне пазоўніка аб тым, што было зроблена пасля публічнага абяцання міністра юстыцыі Літвы «зрабіць усё магчымае, каб вызваліць Алеся Бяляцкага». Без адказу засталося і пытанне пазоўніка адносна таго, хто мог перадаваць інфармацыю аб апазіцыянерах і праваабаронцах беларускім рэпрэсіўным органам, бо сталася вядома, што першасная інфармацыя аб рахунках беларускіх дзеячаў у Літве паступала з Мінюсту ад асобы з ініцыяламі «А.Б.» яшчэ год таму.



*Кіраўнік Згуртавання беларускай моладзі Віленшчыны Валеры Савянкоў(зьлева) і прадстаўнік мінюсту Літвы Аляксандрас Івановас (справа) на слуханьнях у судзе*

«Гэта тычыцца не проста нашай арганізацыі, гэта пытанне маральнай адказнасці Літоўскай дзяржавы, якая не зрабіла таго, што магла б зрабіць для вызвалення беларускіх палітвязняў. Замест паперы, аб якой было загадзя вядома, што яна не мае юрыдычнай моцы, павінен быў быць дасланы афіцыйны зварот, які б меў афіцыйную моц, у Вярхоўны суд Беларусі, альбо Мінюст РБ, і які б зрабіў пасапраўднаму немагчымым скарыстаць у судзе нават фармальна тыя зьвесткі пра рахункі, з-за якіх Аляся Бяляцкага асудзілі. Мінюст Літвы мусіць адказаць за тую маральную і матэрыяльную шкоду, якая гэтым была ўчыненая супраць беларускіх дзеячаў, а суд няхай ацэніць гэтую шкоду і вызначыць адказнасць чыноўнікаў Мінюсту», — заявіў кіраўнік Згуртавання беларускай моладзі Віленшчыны Валеры Савянкоў пасля судовага разбіральніцтва.

*Паводле Радыё Свабода*
*23 лютага 2012*

# Газэты ў Англіі пра Беларусь

У ангельскай газэце "The Daily Telegraf" за 5 кастрычніка 2011 быў надрукаваны артыкул пад назваю "Пуцін хоча, каб савецкага стылю блёк канкураваў з Эўразьвязам". Там гаварылася, што Уладзімір Пуцін напісаў артыкул у газэце "Известия" пра тое, што ён хоча стварыць новы сусьветнага маштабу блёк, у якім было б 300 млн. людзей, пад назваю "Эўраазійскі саюз". Такі блёк можа быць створаны з былых рэспублік СССР. Пуцін і раней ужо выказваў сваё шкадаваньне ў сувязі з развалам Савецкага Саюза, называў гэтую падзею найвялікшай катастрофаю 20 стагоддзя. Пачаткі новага саюзу ўжо ёсьць у форме эканамічнага і мытнага саюзу з удзелам Расеі, Казахстана і Беларусі. Паводле Пуціна, сяброўства ў Эўраазійскім саюзе было б добраахвотнае.

У расейскамоўным тыднёвіку "Лонданскі кур'ер" за 13 студзеня 2012 году зьмешчаны артыкул пад загалоўкам "Болотная лихорадка", дзе згадваецца Беларусь. Размова ішла пра падзеі 1942 года, калі пад час карнай аперацыі "Балотная ліхарадка" гітлераўцы зьнішчылі ў Беларусі шмат мірнага насельніцтва.

Другі расейскамоўны тыднёвік "Англия" за 20 студзеня 2012 году робіць рэкляму Беларусі, дзе мае адбыцца ў 2014 годзе чэмпіянат сьвету па хакеі. Газэта інфармуе ўсіх жадаючых, хто набудзе квіткі на гульні, што яны будуць мець права ехаць у Беларусь без візаў, такі ўказ ужо падпісаў Лукашэнка.

Ангельскія газэты таксма шмат пісалі пра Вікторыю Азаранка, якая сталася першай "ракеткаю сьвету", перамогшы ў гульнях у тэніс, што праходзілі ў Аўстраліі.

У газэце "The Sanday Telegraf" за 12 лютага 2012 году Сара Эванс (Sara Evans) падала свой зьмястоўны артыкул з фотаздымкамі пра Беларусь, які адрасаваўся турыстам. Аўтарка апісвае прыгажосьць Менску, распавядае пра помнікі культуры, пра людзей. Аднак, згадвае, што гэты прыгожы горад ёсьць у Эўропе найменш наведваным турыстамі.

*Міхась Швэдзюк*
*Англія*

Весткі з Вільні

# Годныя пашаны



У апошнюю суботу лютага ў Таварыстве Беларускай Культуры адбылося чарговае мерапрыемства. Яно было прысьвечана тым беларускім дзеячам, якія нарадзіліся ў гэтым месяцы. Ужо стала традыцыяй ўзгадваць тых, хто адыйшоў у іншы сьвет.

24 лютага 1922 года памёр Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі). Жыцьцё і дзейнасьць ягоная зьвязаны зь Вільняй. Тут на пачатку ХХ стагодзьдзя выходзіла газэта «Наша ніва», на старонках якой друкаваліся ўспаміны й артыкулы Ядвігіна Ш. Пісьменьнік пахаваны на віленскіх могілках «Росы». Да ягонай магілы ніколі не зарастае сьцяжына: прыходзяць вучні беларускай школы, прыязджаюць госьці зь Беларусі, а таксама беларусы з замежжа. Пра Ядвігіна Ш. зрабіла паведамленьне Леакадзія Мілаш.

У лютым споўнілася 75 гадоў з дня народзінаў Міхася Стральцова. Лё-сам яму было наканавана кароткае жыцьцё, але колькі пасьпеў зрабіць! Пакінуў багатую літаратурную спадчыну: аўтар эсэ «Загадка Багдановіча», у зборніку «Жыцьцё ў слове» дасьледаваў спадчыну Фр. Багушэвіча, М. Багдановіча, К. Чорнага, Я. Купалы, Я. Коласа.

11 лютага споўнілася 205 год з дня народзінаў мастака Напалеона Орды, пра якога шырокаму колу лю-дзей стала вядома ў 2007 годзе, калі адзначалі ягонае 200-годзьдзе. Тады гэты дзень быў уключаны ў сьпіс памятных датаў ЮНЭСКА, былі выда-дзеныя маркі, срэбныя манеты, названыя вуліцы ў Менску, Бярэсьці, Гародні. Пра Напалеона Орду з паведамленьнем выступіў чалец таварыства Валеры Радзюкевіч. Затым некалькі песень прасьпявала Ксенія Мілаш.

На імпрэзе выступаў з дакладам Алесь Адамковіч. Ён дасьледуе жыцьцё й дзейнасьць беларускіх сьвятароў. І паколькі тэма мала дасьледаваная, да яго заўжды бывае шмат пытаньняў. Гэтым разам Алесь расказаў пра айцоў-марыянаў Андрэя Цікоту й Уладзіслава Талочку.

Андрэй Цікота нарадзіўся ў сялянскай сям'і, скончыў духоўную сэмінарыю ў Менску, а потым і ў Пецярбургу, генерал ордэну марыянаў. У 1948 годзе арыштаваны. Яго вербавалі, прапаноўвалі стаць праваслаўным сьвятаром, але ён адмовіўся. «Пакіньце мяне і дайце спакойна памерці», – быў ягоны адказ.

11 лютага 1952 года ксёндз Андрэй Цікота памёр у адным з лягероў.

Сьвятар Уладзіслаў Талочка адзін зь першых пачаў весьці набажэнствы па-беларуску, выкладаў рэлігію, узначаліў рэлігійную газэту, супрацоўнічаў у «Крыніцы», уваходзіў у склад Літоўскай Тарыбы, да яго прыхільна ставіліся ўлады.

У 1938 годзе ў Вільні адбыўся разгон беларускіх сьвятароў. Уладзіслава Талочку выслалі ў Беласток, а перад вайной ён вярнуўся ў Вільню. У лістападзе 1942 года Уладзіслаў Талочка памёр. Ён пахаваны на віленскіх могілках «Росы».

Галоўная падзея гэтага месяца – устаноўчы зьезд Таварыства Беларускай Культуры, які адбыўся 4 лютага 1989 года ў Вільні, а 27-га Хведар Нюнька напісаў заяву ў Міністэрства культуры Літвы, каб нам перадалі Базыльянскія муры. Гэта адбылося 23 гады назад. Здаецца, было гэта нядаўна, а ўжо стала гісторыяй. Пра дзейнасьць Таварыства можна сказаць, што зроблена і напісана вельмі шмат, кожны месяц дасылаюцца весткі зь мерапрыемства. На працягу 23 гадоў старшынёю Таварыства абіраецца Хведар Нюнька.

У сваім выступленьні ён ўзгадаў першыя гады дзейнасьці, падрабязна расказаў пра апошні год. «Мы захавалі нашую тоеснасьць, нашыя прынцыпы, мы адданыя адной ідэі, ад якой не адхіліліся. У Таварыстве нацыянальныя сымбалі – герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сьцяг. Пазыцыя самая актыўная і не мяняецца, – адзначыў у сваім выступленьні Хведар Нюнька. – На жаль, многія адышлі ў іншы сьвет. У мінулым годзе адзначалі 90 год з дня нараджэньня Ю. Зямніцкага і 10 год з дня сьмерці. Яго дзейнасьць працягвае дачка Тацьцяна Скарэне. Ужо два гады, як памерла Натальля Яруліна. Яна прымала вельмі актыўны ўдзел ў дзейнасьці Таварыства.

На лютаўскай імпрэзе таксама прысутнічала госьця зь Менску, вядомы кінарэжысэр Вольга Мікалайчык. Яна расказала пра працу над апошнімі фільмамі.

*Леакадзія Мілаш, Вільня*

Весткі з Канады

# Шлях да вяртаньня

"Шлях да вяртання" гэта назва зборніка вершаў Юрася Шамецькі. Зборнік выйшаў у Мінску ў мінулым годзе. Яго прэзэнтацыя праходзіла ў доме, дзе жыве сям'я Шамецькаў, на якую прыйшло звыш пяцідзесяці беларусаў, якія пражываюць у Атаве. Юрась Шамецька пачаў пісаць вершы даўно, год дваццаць таму назад. Былі вымушаныя перапынкі, адзін з якіх быў зьвязаны э пераездам на жыццё ў новую краіну, Канаду. Са слоў паэта вершы больш актыўна пісаліся ў апошнія гады.

Напачатку Юрась Шамецька распавёў, калі ён пачаў пісаць вершы, што яго натхняла, і чаму зборнік мае такую назву. "Шлях да вяртання" - гэта назва, якая увасабляе жыцьцёвую пазыцыю паэта, гэта вяртаньне да радзімы, да Бога, да сваіх беларускіх каранёў, вяртаньне да мовы. У зборніку многа прыгожых, лірычных вершаў. Безумоўна, каб атрымаць поўнае ўражаньне ад вершаў, іх трэба чытаць. Хачу прывесьці толькі адзін верш, які Юрась прысьвяціў роднаму Мінску.

***

*Не шукаю я пары змаганьня,*
*не бывае тут пары дажджоў...*
*Ў Менск стары, як крылы для вяртаньня,*
*я білет шчасьлівы не знайшоў.*

*Горад мой бяз золата і бронзы,*
*абмінуўшы славу і прэстыж,*
*ў скрыжаваньнях вуліцаў бясконцых*
*знойдзе мне мой ратавальны крыж.*

*Я блукаю, каб знайсьці адказы...*
*Ён, як храм, стаіць паміж вятроў -*
*горад не пакораны ў паразах,*
*не зламаны дзідамі вякоў.*

*Ён і сёньня дорыць водар чысты,*
*ў акварэльных променях дажджу.*
*Дапаможа вызначыць празрыста*
*шлях адзіны, па якім пайду...*

Трэба адзначыць, што было вельмі прыемна чуць вершы у выкананьні аўтара, калі адчуваеш дэталі, эмацыянальную афарбоўку, акцэнты, інтанацыі. А рабіў гэта Юрась вельмі ўдала і артыстычна. Дэкламацыя вершаў ішла ў чарадзе з прамовамі аб гісторыі налісаньня апошніх вершаў, натхнёных паездкамі ў Парыж, Фларэнцыю і Рым і, вядома ж, на Радзіму.

Несумненна, эмацыйны посьпех вечарыны быў значна ўзмоцнены тым, што некаторыя вершы чыталіся ў музычным суправаджэньні дуэта "Кантабіле", у складзе Ўладзі Шамецька (скрыпка).

# У Вене пачаліся беларускія набажэнствы



У сталіцы Аўстрыі на просьбу мясцовых беларусаў архібіскуп Вены, кардынал Хрыстафор Шонбэрн заснаваў беларускае грэка-каталіцкае душпастырства ў гонар Хрыста Чалавекалюбцы.

Душпастарам прызначаны айцец Андрусь Абламейка. У інтэрвію Радыё Свабода сьвятар сказаў:

«З блаславеньня яго эмінэнцыі кардынала Хрыстафора Шонбэрна ў венскай царкве Сьвятой Барбары пачаліся рэгулярныя беларускія набажэнствы. Кожны панядзелак а 18-й гадзіне мы служым Акафіст да Хрыста Чалавекалюбцы. У панядзелак на гэтым тыдні Акафіст быў адслужаны ўжо другі раз. А ў наступную нядзелю, 4 сакавіка, а 18-й гадзіне ў царкве будзе адслужаная першая беларуская Боская літургія. Літургію мы пакуль будзем служыць кожную першую нядзелю месяца. Акафіст, як я ўжо сказаў, кожны панядзелак. Вена – вельмі важны для беларускай царкоўнай гісторыі горад. Некалі тут захоўваліся мошчы сьвятога Язафата да іх перавозкі ў Рым. Адрас царквы Сьвятой Барбары: Postgasse, 8. Запрашаю ўсіх ахвочых слухаць слова Божае па-беларуску».

Айцец Андрусь Абламейка цяпер вучыцца ў дактарантуры ў Міжнародным тэалягічным інстытуце ў Вене. Два разы на месяц, у другую і апошнюю нядзелі, ён даяжджае ў Прагу і служыць у праскай царкве сьв. Кузьмы і Дзям'яна Боскія Літургіі для праскіх беларусаў.

*Паводле Радыё Свабода 02.03.2012*

# Новае для дасьледчыкаў беларусазнаўства

У Менску пад грыфам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь выйшаў нядаўна зборнік матар'ялаў, загалоўлены "Беларуская кніга ў кантэксце сусьветнай кніжнай культуры: гісторыя і сучаснасьць" (2011, 346 с.).

У зборніку некалькі тэматычных разьдзелаў: скарыназнаўства, кніжная культура Беларусі, і т. п. Бясспрэчна, на зборнік, які дае значна новага матар'ялу ў беларусазнаўстве, зьявяцца прафэсыйныя рэцэнзіі-агляды, аднак тут чытачу "Беларуса" мы засыгналізуем толькі пару новых важных матар'ялаў.

У зборніку пададзены грунтоўны аналіз апошняга пэрыяду жыцьця й працы буйнейшага беларускага дзеяча нацыянальнага адраджэньня, навукоўца, акадэміка, які пакінуў векапомны сьлед у беларускай навуцы, - Вацлава Ластоўскага, арыштаванага ў Менску ў 1930 годзе, высланага ў Саратаў, дзе ён быў паўторна зьняволены й расстраляны 23 студзеня 1937 году. Артыкул удакумэнтаваны манускрыптамі й фатаграфіяй Ластоўскага.

Іншым матар'ялам, вельмі важным для вывучэньня дзейнасьці беларускае эміграцыі ў Заходнім сьвеце, ёсьць упершыню надрукаваны агляд Лявонам Юрэвічам апрацаванае калекцыі, каля 400 назоваў, беларускіх эміграцыйных пэрыёдыкаў у Нью Ёркаўскай Публічнай Бібліятэцы, перададзеных туды ў 1999 годзе Вітаўтам і Зорай Кіпелямі.

У гэтым матар'яле Л. Юрэвіч падае як назву пэрыёдыка (у адным альфабэце кірыліца і лацінка), а гэтак сама скрыню й шыфр, пад якім дадзены пэрыёдык закаталягізаваны, і ягонае месцазнаходжаньне. Гэткім парадкам беларуская эміграцыйная пэрыёдыка становіцца даступнаю для вельмі шырокага кола дасьледнікаў.

*Вітаўт Кіпель*

# Дзьвюхмоўе "узмацняе мазгі"

## *Найперш да ведама бацькоў і настаўнікаў*

Многія імігранты ў Амэрыцы апынаюцца перад пытаньнем: ці варта перадаваць нашчадкам мову дзядоў-бацькоў? У гэтым даўнім пытаньні доўгі час пераважала думка (нічым не абгрунтаваная), што дзьвюхмоўе перашкаджае мазгавому разьвіцьцю дзіцяці. Сёньня маем нарэшце адказ на яго ад экспэрымэнтальнай псыхалёгіі. Цягам апошніх дзесяцігодзьдзяў нэўралягічныя досьледы пры дапамозе новых тэхналёгіяў прывялі якраз да супрацьлеглага адказу на пытаньне пра сувязь дзвьвюхмоўя й мазгавога разьвіцьця. І шмат хто робіць практычныя высновы з гэтага вынаходзтва.

У папулярных амэрыканскіх часопісах цяпер часта рэкамэндуюць бацькам узгадоўваць дзяцей у дзьвюхмоўі. Грунтоўны артыкул на гэтую тэму быў апублікаваны ў леташнім травенскім нумары (31.05) газэты "Нью Ёрк Таймс" у форме гутаркі з прафэсаркай, заслужаным доктарам псыхалёгіі Эленай Бялысток (Ellen Bialystok). Яна – спэцыялістка кагнітыўнае нэўралёгіі, якая амаль сорак гадоў займаецца вывучэньнем уплыву дзьвюхмоўя на разьвіцьцё мазгавых здольнасьцяў чалавека. Як паказалі экспэрымэнты, сказала др. Бялысток, дзьвюхмоўныя асобы маюць большую за аднамоўных здольнасьць разьбірацца зь дзьвюма праблемамі адначасна. Дзьвюхмоўнікі – лепшыя шоферы за аднамоўнікаў. А ў старэйшым веку, калі хто зь іх захворвае на заняпад памяці (так званая хвароба Альцгаймэра), дык немач гэтая прыходзіць да аднамоўных у сярэднім на шэсьць гадоў раней, чымся да дзьвюхмоўных. Мала таго, дзьвюхмоўе ўзмацняе агульны інтэлектуальны патэнцыял чалавека. Вось самыя цікавыя выказваньні др. Бялысток у інтэрвію газэце "Нью Ёрк Таймс".

***Пытаньне:*** Ці разьвіцьцё новых нэўравобразавых (neuroimaging) тэхналёгіяў паўплывала на Вашу працу?

***Адказ:*** Агромніста. Раней было так, што мы маглі бачыць толькі часткі мазгоў, якія засьветліваліся, калі нашы суб'екты выконвалі розныя заданьні. Цяпер жа, з новымі тэхналёгіямі, мы можам назіраць усе мазгавыя структуры, задзейнічаныя ў згодзе адна з адной.

Калі гаварыць пра аднамоўнікаў і дзьвюхмоўнікаў, дык вялікай навіной было тое, што сувязь структураў аказалася рознай. Такім чынам, калі аднамоўнікі, разьвязваючы праблему, карыстаюцца сыстэмамі Ікс, дык дзьвюхмоўнікі, разьвязваючы тую самую праблему, выкарыстоўваюць іншыя сыстэмы. Адно з адкрыцьцяў, якое мы пабачылі, гэта тое, што ў некаторых, нават нэвэрбальных (ня моўных), тэстах дзьвюхмоўныя асобы хутчэйшыя. Чаму? Вось жа, калі мы глядзім на іхныя мазгі праз нэўраімаджынг, дык выглядае, што яны карыстаюцца іншай сеткай каналаў, якая можа ўключаць моўныя цэнтры для разьвязкі зусім невэрбальных праблемаў. Увесь іхны мозг, як выглядае, мяняе камунікацыйную сетку ў выніку дзьвюхмоўя. (Their whole brain appears to rewire because of bilingualism.)

***Пытаньне:*** Дзьвюхмоўе разглядалася як рэч адмоўная, прынамсі ў Злучаных Штатах? Ці гэта ўсё яшчэ так?

***Адказ:*** Прыблізна да 1960-х гадоў пашыранай мудрасьцю было, што дзьвюхмоўе шкодзіць. Часткава гэта абумоўлівалася ксэнафобіяй. Дзякуючы навуцы, мы цяпер ведаем, што якраз супрацьлеглае адпавядае праўдзе.

***Пытаньне:*** Многія імігранты пастанаўлялі не навучаць дзяцей роднай мове. Ці гэта добра?

***Адказ:*** Мяне ўвесь час пытаюцца пра гэта. Людзі прысылаюць электронныя лісты й кажуць: "Я выходжу замуж за чалавека зь іншай культуры. Што нам рабіць зь дзецьмі?" Я заўсёды адказваю: "Вы маеце пад сабой патэнцыяльны дар."

Ёсьць дзьве галоўныя прычыны, чаму трэба перадаваць спадчынную мову нашчадкам. Па-першае, гэта спалучае дзяцей зь іхнымі продкамі. А па-другое, гэта вынікі маіх доследаў: дзьвюхмоўе карыснае чалавеку. Яно ўзмацняе мазгі. Яно зьяўляецца практыкай мазгоў.

Але, як зазначыла др. Бялысток, каб мець карысьць зь дзьвюхмоўя, трэба ім увесь час карыстацца.

*Янка Запруднік*

# Беларускі бізнэсовец адкрыў сэсію Нью-Ёрскай фондавай біржы

Беларускі распрацоўнік праграмнага забесьпячэньня — прыватная кампанія EPAM Systems — пачала продаж сваіх акцыяў на Ўол-Стрыце. З гэтай нагоды над уваходам у Нью-Ёрскую Фондавую біржу (NYSE) на Ўол-Стрыт быў вывешаны афіцыйны сьцяг РБ, а генэральны дырэктар беларускай кампаніі EPAM Аркадзь Добкін даў стартавы звон біржавай сэсіі.

Паводле EPAM, для продажу будуць прапанаваныя 1.517.647 акцый, якія належаць самой кампаніі, і 5.882.353 акцый, якімі валодаюць іншыя акцыянэры кампаніі EPAM Systems. Акрамя таго, кампанія выпусьціць да 1.110.000 дадатковых акцыяў у выпадку перавышэньня заявак над прапановай. Паводле папярэдніх ацэнак, кошт адной акцыі кампаніі EPAM складзе ад 16 да 18 даляраў ЗША.

*Паводле Радыё Свабода 08.02.2012*

# Амэрыканская пісьменьніца: беларуская мова самая прыгожая ў сьвеце

*Прапануем вашай увазе меркаваньні аб беларускай мове пісьменьніцы і перакладчыцы са штату Паўночная Караліна (ЗША), рэдактаркі часопіса "Навіны" Паўднёва-Амерыканскай Асацыяцыі беларускіх дасьледаваньняў, нейрафізіёлага Джасьцін Ралей (Justin Rawley).*



**Telegraf.by**: Чым вас зацікавіла беларуская мова? Чаму вы вырашылі яе вывучаць?

**Ралей:** Я займаюся беларускай мовай толькі для сябе, але ж нядаўна стала рэдактарам часопіса "Навіны" Паўднёва-Амэрыканскай Асацыяцыі беларускіх дасьледаваньняў. Гэта – ангельска-беларускамоўны часопіс, хаця час ад часу, мы друкуем артыкулы на расійскай і польскай мовах.

Я пачала цікавіцца расійскай мовай з 15 гадоў, але не мела магчымасці размаўляць на ёй, бо не было расійскамоўных людзей ў тым месцы, дзе я жыла. Прыкладна 15 гадоў таму назад, з'явілася шмат эмігрантаў з былога Савецкага Саюза ў нашым раёне, і тады я пачала вывучаць расійскую мову больш сур'ёзна. Калі я гаварыла з гэтымі рускамоўнымі людзьмі, то таксама даведалася больш пра розныя рэспублікі былога Савецкага Саюза. Пазнаёмілася з беларусамі і запытала іх, ці існуе асобная беларуская мова? Калі я ўпершыню пачула яе, вырашыла, што я хачу, і павінна вывучаць яе, бо палічыла што, яна найпрыгажэйшая мова ў свеце (з усіх, якія я чула). Вось так я пачала вывучэньне беларускай мовы. Я часта жартую, што можа быць я гаварыла на ёй у мінулым жыцці, і таму адчуваю такое моцнае прыцягненне да яе.

Напачатку я шукала матэрыялы, падручнікі, запісы і гэтак далей у інтэрнэце – і адразу знайшла падручнік для ангельскамоўных людзей Юркі Станкевіча. Я выкарыстоўвала яго для самастойнага вывучэньня мовы, потым пачала займацца беларускай мовай праз Скайп, раз на тыдзень, з Хрысцінай, а потым, з Ірынай Марачкінымі, настаўніцамі, якія жывуць ў Менску. Гэтыя заняткі працягваліся амаль два гады і былі вельмі карысныя для мяне.

Тры гады таму назад Цэнтар беларускіх дасьледаваньняў ў Паўднёва-заходнім каледжы Канзаса, абвесціў Першую Міжнародную летнюю школу беларускіх дасьледаванняў ў Гайнаўцы, Польшча. Я паступіла і ўдзельнічала ў гэтай школе, яна стала для мяне першым інтэнсіўным досведам, пад час якога, я размаўляла кожны дзень па-беларуску і жыла паміж беларускамоўных людзей. Пасля школы, студэнты мелі магчымасць паехаць на кароткі тур па Беларусі, а таксама ў Вільню (Літва). Наша група правяла тры дні ў Менску і пасля гэтага я вырашыла, што я б хацела працягваць вывучэньне расейскай і беларускай моў у Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Ірына Марачкіна дапамагла мне запісацца ва ўніверсітэт і знайсці кватэру ў Менску. Без яе, я б проста не змагла ажыцьцявіць маю мару, жыць ў Беларусі. Такім чынам, пры яе дапамозе, я жыла і вывучала мову ў Менску шэсьць месяцаў у 2010 годзе.

Мушу сказаць, што мой досьвед на Беларусі меў перш за ўсё культурніцкі характар. Мае настаўніцы ва ўніверсітэце, якія выкладалі мне на расейскай і на беларускай мовах, былі выдатнымі. Я таксама мела магчымасьць глядзець п'есы на беларускай мове ў тэатры Янкі Купалы, вывучаць беларускае літаратурнае вымаўленьне з Зінаідай Бандарэнкай і мастацтва з Аляксеем Марачкіным. Мае сябры пазнаёмілі мяне з народнымі танцамі ў клубе "Жар-Птушка", што ў Парку Горкага. Я сустракалася з Алесем Разанавым, калі ён прыязджаў у Менск на Міжнародную канфэрэнцыю беларусістаў, і абмяркоўвала з ім два мае пераклады ягоных твораў, над якімі я працавала пад час майго побыту ў Менску. Пасля гэтага я адразу вярнулася ў Гайнаўку на Другую Міжнародную летнюю школу беларускіх даследаваньняў. Там я прабыла пяць тыдняў, разам з сям'ёй, адной з маіх настаўніц беларускай мовы.

Зараз я працягваю вывучэнне беларускай мовы і літаратуры з Надзеяй Нортан (Сычуговай) з Менску, яна на працягу двух гадоў была запрошаным даследчыкам у Цэнтры беларускіх даследанняў ў Канзасе, і зараз жыве ў Каліфорніі. Таксама трымаю кантакт са сваімі сябрамі ў Менску і Польшчы. У гэтым годзе ізноў адбудзецца ўжо Трэцяя Міжнародная летняя школа беларускіх дасьледаваньняў у Гайнаўцы, у якой я плануя ўзяць ўдзел яшчэ раз.

**Telegraf.by**: Як вы ацэньваеце моўную сітуацыю ў Беларусі?

**Ралей:** Я мела магчымасьць бачыць гэтую сітуацыю з пазіцыі назіральніка – як замежны чалавек. І заўважыла што, ёсьць людзі, яны сустракаюцца рэдка, якія лічаць беларускую мову сваёй першай і галоўнай мовай. Для іх, расійская мова знаходзіцца на другім месцы. Іншыя размаўляюць на абедзвюх мовах, але яны таксама сустракаюцца не часта. Ёсць жыхары Беларусі, якія паходзяць з іншых былых савецкіх рэспублік, якія не ведаюць беларускай мовы.

Мне здаецца, што большасьць беларусаў майго ўзросту валодаюць беларускай мовай толькі на школьным узроўні або ўвогуле абыякава ставяцца да яе. Сёння, існуюць суполкі сярод моладзі, якія імкнуцца паставіць беларускую мову на першае месца ў жыцці, але ёсьць іншая моладзь, якая абыякавая да беларускай мовы. Сярод людзей, якіх я сустракала на Беларусі, былі такія, якія здзіўляліся, што замежнік хацеў бы вывучаць беларускую мову, але былі і такія, хто казаў мне, што беларуская мова не існуе, іншыя лічылі, што зараз мова занадта змешана з расійскай мовай, і таму яе можна лічаць толькі дыялектам. Сустракаліся і такія, што не размаўляюць, і не разумеюць па-беларуску, часта блытаюць яе з польскай мовай (улучаючы эмігрантаў). Таксама ёсьць людзі, якія глыбока шануюць беларускую мову, гісторыю і культуру Беларусі. Сярод шматлікіх разнастайных момантаў пад час майго жыцця на Беларусі, я асаблівa добра памятаю тры прыклады якія добра падкрэсьліваюць моўную сітуацыю на Беларусі.

Аднойчы, ў банку напрыканцы працоўнага дня, я стаяла ў чарзе, калі з'явілася жанчына. Яна выглядала трошкі старэйшай за мяне. Як я памятаю, яна запытала па-расійску, ці можна стаць перад кімсьці ў чарзе. Увогуле, людзі не дазвалялі ёй гэтага зрабіць. Я сама сказала па-беларуску, што ўжо чакаю 40 хвілінаў. Яна ж растлумачыла, што яна павінна сустрэцца са сваім сынам праз некалькі хвілін, і яна б не прасіла, калі б гэта не было сапраўды вельмі важна. Пры гэтым я заўважыла, што яна хвалявалася трошкі, і мне здалося, што гэта была шчырая просьба. У выніку я сказала, ну добра, можна. Яна сардэчна падзякавала мне па-беларуску, на маю думку, яна пераключылася на беларускую мову ў знак шанаваньня.

Перад тым, як выехаць з Беларусі, я вырашыла даслаць шмат рэчаў дадому, асабліва, зімнюю вопратку, запакавала рэчы і панесла некалькі скрыняў на пошту. На шостым месяцы майго навучання ва ўніверсітэце, я вырашыла засяродзіць сваю ўвагу толькі на беларускай мове, таму мне стала цяжка хутка пераключацца паміж дзвюма мовамі. Жанчына у шапіку гаварыла па-расейску і я спыталася, ці я магу звяртацца да яе па-беларуску. Яе рэакцыя на пытаньне, на маю думку, сьведчыць пра тое, што яна, напэўна, саромелася таго, што не вельмі добра валодае беларускай мовай: яна засмяялася. Жанчына, якая стаяла за мной разззлавалася, і хоць я дакладна не памятаю ўсе яе словы, яна крычала нешта накшталт: "Чаму Вы думаеце што, гэта смешна? Гэтая жанчына хоча размаўляць з Вамі па-беларуску, а вы смеяцеся. Беларуская мова, адна з нашых дзяржаўных моў і вы павінны валодаць ёй і гэтак далей". Я з сорамам выйшла, спадзеючыся быць незаўважанай.

Чалавек у кватэры, што месьцілася над маёй, рабіў рамонт – час ад часу да глыбокай ночы. Рамонт быў шумным і смярдзючым, асабліва калі ён клаў лак на падлогу. Аднойчы, позна ўвечары, я не вытрымала гэтага, і вырашыла знайсці пакой у гатэлі. Я спыталася ў кансьержкі, ці ёсць самы танны пакой, ці ёсць студэнцкая зніжка, ці засталіся пакоі, для тых, хто не паліць і г. д. Я заплаціла за пакой, і дала ёй пашпарт. Яна са здзіўленьнем заўважыла: "Вы маеце амерыканскі пашпарт". Яна была рада даведацца што, ёсьць такія замежнікі, якія вывучаюць беларускую мову.

*Заканчэньне на 9-й бачыне*

*Заканчэньне з 8-й бачыны*

Я ведаю шмат палякаў, некалькі ангельцаў, амэрыканцаў і немцаў, якія размаўляюць па-беларуску вельмі добра, і таксама шмат беларусаў, якія нават не прызнаюць сваю мову. Можа быць гэта не зусім справядліва, але я прыдумала такі анекдот: "Як называецца чалавек у Беларусі, які размаўляе па-беларуску? - Замежнік".

**Telegraf.by**: Якой вы бачыце будучыню беларускай мовы?

**Ралей**: Наконт мовы ў Беларусі, мне здаецца, што шмат залежыць ад будучага палітычнага напрамку краіны. Калі я жыла на Беларусі, то заўважыла дзве тэндэнцыі: з аднаго боку, існуе абыякавасць да мовы сярод людзей, і адначасова, ёсць "дыяспара" беларускамоўных людзей у Беларусі, якія глыбока шануюць беларускую мову і яе літаратурную спадчыну. Ёсць беларусы і за мяжой, а таксама, і замежнікі, якія хочуць захаваць беларускую мову і культуру, але яны не шматлікія, і не могуць самастойна выратаваць мову. Тут я б хацела працытаваць Алеся Разанава і зрабіць аналогію з тым, што Беларусь зараз знаходзіцца на раздарожжы паміж Захадам і Усходам (я маю на ўвазе ментальна, а не геаграфічна).

Людзі, якія хочуць захаваць савецкую сістэму і прытрымліваюцца савецкіх ідэяў – да мовы, да культуры – думаюць што, падтрымка мінулага гарантуе ім стабільнасць. Мне здаецца, што яны думаюць калі стануць часткай Расіі, то змогуць адбудаваць Савецкую імперыю і тым самым узняцца на больш вышэйшы ўзровень жыцця. На жаль, гэта не можа быць роўнае суіснаванне. Яны не заўважаюць, што Расія ўжо даўно прайшла гэты савецкі перыяд яе гісторыі. Іншыя людзі хочуць супрацоўніцтва з Еўропай, можа нават стаць сябрам Еўрапейскага звязу, пры гэтым захаваць сваю асобную беларускую ідэнтычнасць і культуру. Існуе таксама група людзей, якія хочуць стаць асобнай краінай, незалежнай ад эканамічнага ўплыву іншых краінаў.

Я думаю што зараз, выбар апошняга – быў бы самым цяжкім шляхам. У такім выпадку, застаецца толькі два рэальныя выбары – стаць ізноў "младшим братом России", або стаць асобнай краінай у нейкай еўрапейскай сістэме. Гэта можа быць Еўразвяз, ці іншы саюз ўсходне-еўрапейскіх краінаў. Калі Беларусь будзе працягваць шукаць сваю асобную ідэнтычнасць, то абавязкова адбудзецца Рэнесанс мовы і культуры, і наступнае пакаленьне будзе менш абыякавым да сваёй ідэнтычнасьці, а больш зацікаўленым быць "беларусамі".

*7 сакавіка 2012*
*telegraf.by (перадрукавана з сайту ЗБС "Бацькаўшчына")*

# Посьпех беларускага балета



Беларуская балярына Паліна Русецкая атрымала залаты медаль на міжнародным балетным конкурсе "Танцавальны Алімп", які праходзіў у Бэрліне 24-28 лютага 2012 году. У ім бралі ўдзел больш тысячы артыстаў балета з 35 краінаў.

Паліна бліскуча выканала варыяцыю з балета "дон Кіхот".
У заключным гала-канцэрце яна станцавала клясычную варыяцыю з балета "Пахіта".
Конкурс у Бэрліне лічыцца найбольш прэстыжным ў сфэры міжнародных харэаграфічных спаборніцтваў.

# Залаты біятлон




Беларуска Даша Дамрачова выйграла залаты медаль чэмпіяната сьвету па біятлону ў нямецкім Рупольдзінгу. Менчанка першынствавала ў гонцы перасьледаваньня.

# Амэрыканская культура вачыма беларускіх студэнтаў

Цэнтр міжкультурнага дыялёгу, створаны ў красавіку 2010 года ў Беларусі, абвясьціў конкурс на тэму "Амэрыканская культура: якая яна?"

Па выніках першага туру, якія былі абвешчаны 28 студзеня 2012 году, пераможцамі былі прызнаны крыху больш за 20 удзельнікаў. Сярод іх двое студэнтаў з Менску, якія прыязджалі ў Нью-Ёрк на мінулыя летнія вакацыі на працу па студэнцкай праграме – Марына Яўсейчык і Раман Карп. Марына і Раман прадставілі свае фотаздымкі, якія адлюстоўваюць пабачаныя імі выявы амэрыканскага жыцьця і фота вядомых мясьцінаў ў Нью-Ёрку. Нью-Ёркскія беларусы добра ведаюць гэтых маладых людзей, якія па прыездзе ў Амэрыку адразу прыйшлі ў беларускі асяродак і далучыліся да грамадзкага жыцьця.

Жадаем ім далейшых посьпехаў!

# Падзяка

Выказваем падзяку сп. Яўгену Грушу з Мельбурну за дасланыя інфармацыі з аўстралійскага друку пра перамогу ў тэнісных спаборніцтвах беларускай тэнісісткі Вікторыі Азаранка. Яны будуць перададзеныя для захаваньня ў Архіў пры Фундацыі Крэчэўскага.

# Валянціна Церашкова - беларуска



Першая у сьвеце жанчына-касманаўт Валянціна Церашкова адзначыла 6 сакавіка сваё 75-годзьдзе.Яна здзейсніла свой гістарычны трохдзённы палёт у космас у чэрвені 1963-га.У гонар Церашковай названы кратэр на Месяцы і малая планета.

Раней яна не надта афішавала свае беларускае паходжанне, але цяпер прызнаецца, што ў дзяцінстве гаварыла па-беларуску.

" Мая мама родам з вёскі Ерамееўшчына цяперашняга Дубровенскага раёна, а тата — з-пад Магілёва, — распавядае Церашкова. — Бацькі выехалі ў Цэнтральную Расію ў пачатку XX стагоддзя, бо дома не маглі пракарміцца.

Усе мае бабулі гаварылі па-беларуску, спявалі беларускія песьні. З мяне самой у Яраслаўлі пасьмейваліся, калі замест "открой дверь" гаварыла "адчыні дзьверы".

*Паводле сайту ЗБС "Бацькаўшчына"*

Літаратурная старонка

# Нізка вершаў да 25 Сакавіка Пятра Мурзёнка з Канады

### Выбачай

*Не магу любіць цябе як сына,*
*Ты карані свае пакінуў;*
*Жывеш на тэрыторыі маёй –*
*У пашпарце маўкліваю графой.*

*Не змагу цябе любіць як сына, Выбачай, ты карані пакінуў.*

*Не цікавіць гісторыя краю,*
*Беларусаў якая яднае;*
*Забыўся, кім продкі твае былі*
*І ў мове якой крыжы на зямлі.*

*Не змагу цябе любіць як сына*
*- Выбачай, ты карані пакінуў.*

*Памяркоўнасьць твая не заўсёды*
*Прыводзіць да шчасьця ды згоды;*
*Відаць, закрэсьліў з хворай галавой*
*Мой герб і сьцяг ты добраю рукой.*

*Не змагу цябе любіць як сына*
*- Выбачай, ты карані пакінуў.*

*Не глядзі, што ты памяркоўны, Не застанешся нават двухмоўным;*
*Як толькі продкам здрадзіш сваім,*
*Мяне праз гэта загубіш зусім.*
*Не змагу цябе любіць як сына*
*- Выбачай, ты карані пакінуў.*

### Радзіма

*Беларусь! Мая Радзіма!*
*А ці любіш свайго сына,*
*што цяпер ў далёкіх весях,*
*які любіць твае песьні,*
*які любіць наша слова*
*і гаворыць роднай мовай,*
*бацькі любы яму, жонка,*
*люба родная старонка,*
*любы дзеткі і старыя,*
*усе людцы дарагія,*
*лясы любы і нябёсы,*
*любы нівы, любы плёсы,*
*Мілы родныя куточкі,*
*птушак галасоў званочкі?*

*Беларусь! Мая Радзіма!*
*Любі моцна свайго сына,*
*што цяпер ў далёкіх весях,*
*які любіць твае песьні,*
*які любіць наша слова*
*і гаворыць роднай мовай,*
*бацькі любы яму, жонка,*
*люба родная старонка,*
*любы дзеткі і старыя,*
*усе людцы дарагія,*
*лясы любы і нябёсы,*
*любы нівы, любы плёсы,*
*мілы родныя куточкі,*
*птушак галасоў званочкі!*

### Пра мову

*Для тых, хто адрокся ад мовы Турэмныя нары гатовы;*
*Ты ж здрадзіў не мове, а матцы, І месца табе ў бруднай хатцы.*

*Для тых, хто сьмяецца з мовы,*
*Дык вырак яшчэ больш суровы; У пекле сьмяяцца ты будзеш, Стаяць па калені у брудзе.*

*А тым, хто ўлюбены у мову -*
*Удачу дасьць Бог у час новы;*
*Бо яшчэ ў Яго ёсьць надзея*
*Палі з вамі ў краі засеяць.*

*А тым, хто гаворыць на мове -Наш нізкі паклон адмысловы;*
*Бо з вамі над краем свабода,*
*Як сонца засьвеціць народу.*

### Будзьма разам

*Мы паехалі з краю,*
*Хоць былі і не рады.*
*Розум гэтак нам раіў,*
*Не давалі там рады.*
*Вы засталіся ў краі,*
*Сапраўды, вы героі,*
*Побач з воўчаю зграяй*
*Ні хвіліны спакою.*

*Дапамога, парады,*
*Мы заўжды к ім гатовы.*
*Тут няма барыкадаў,*
*Дапаможам вам словам.*

*Беларусь, дарагая!*
*Хоць здалёк, маем права,*
*Зычыць роднаму краю*
*Росквіт, шчасьце ды славу!*

### Хвароба

*Народ нездаровы -*
*Скарыуся зусім,*
*Забыўся на мову.*
*Захоплены кім?!*

### Памяркоўнасьць

*Каб наша памяркоўнасць раптам*
*Ахвярнасьцю сталася трапнай Дык мелі б значна меней гора,*
*А так дык сорам - проста сорам.*

### Кантакт

*За рукі возьмемся сябры*
*І будзем у кантакце,*
*Былі ліцьвіны ваяры*
*Быць нам цяпер на варце!*

## Каляндар памятных датаў на сакавік 2012 году

**3 сакавіка**, 945 гадоў таму, у 1067 годзе адбылася бітва на рацэ Нямізе паміж войскамі паўднёва-рускіх князёў і полацкага князя Усяслава Чарадзея.

**4 сакавіка**, 85 гадоў таму, у 1927 нарадзіўся Міхась Дубянецкі, грамадзкі дзеяч, кнігавыдавец, публіцыст, перакладчык.

**5 сакавіка**, 100 гадоў таму, у 1912 нарадзіўся Аўген Калубовіч (Каханоўскі), гісторык, грамадзка-палітычны дзеяч, літаратуразнавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**6 сакавіка**, 40 гадоў таму, у 1972 годзе ў Менску заснавана выдавецтва “Мастацкая літаратура”.

**7 сакавіка**, 45 гадоў таму, у 1967 у Сопаце памёр Караль Румель, коньнік-спартовец, першы алімпіец з Беларусі, браў удзел у Алімпійскіх гульнях у 1912 годзе ў Стакгольме.

**10 сакавіка**, 70 гадоў таму, у 1942 нарадзіўся Міхась Ткачоў, грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык, археоляг.

**11 сакавіка**, 125 гадоў таму, у 1887 нарадзіўся Алесь Гарун (Прушынскі) дзеяч нацыянальнага руху, паэт.

**13 сакавіка**, 95 гадоў таму, у 1917 у Петраградзе загінуў Уладзімір Хлябцэвіч, удзельнік нацыянальнага грамадзка-літаратурнага руху.

**15 сакавіка**, 20 гадоў таму, у 1992 памёр Уладзімір Цвірка (Скурко) журналіст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Бэльгіі.

**17 сакавіка**, 415 гадоў таму, у 1597 Віцебск атрымаў магдэбургскае права.

**17 сакавіка**, 90 гадоў таму, у 1922 нарадзіўся Лявон Луцкевіч, грамадзка-палітычны і культурны дзеяч.

**18 сакавіка**, 20 гадоў таму, у 1992 Вярхоўны Савет Беларусі загадаў ураду пачаць фармаваньне нацыянальных Узброеных сілаў.

**19 сакавіка**, 125 гадоў таму, у 1887 у Жэневе памёр Юзаф Ігнацы Крашэўскі пісьменьнік, гісторык, грамадзкі дзеяч.

**20 сакавіка**, 90 гадоў таму, у 1922 памёр Алесь Бурбіс, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху.

**21 сакавіка**, 25 гадоў таму, у 1987 памёр Адам Русак, паэт-песеньнік.

**22 сакавіка**, 230 гадоў таму, у 1882 нарадзіўся Эдвард Будзька, паэт, публіцыст.

**23 сакавіка**, 85 гадоў таму, у 1927 нарадзіўся Уладзімір Шнэк, вайсковы і грамадзкі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

**25 сакавіка** - Дзень Волі.

**25 сакавіка**, 20 гадоў таму, у 1992 у Гародні выйшаў першы нумар газэты “Пагоня”, выд. да 2001 году.

**25 сакавіка**, 15 гадоў таму, у 1997 у Вільні выйшаў першы нумар газэты “Рунь”.

**27 сакавіка** – Міжнародны дзень тэатра.

# Апошнія навіны з Беларусі



У Беларусі расстраляныя абодва асуджаныя на сьмяротнае пакараньне паводле абвінавачваньня ў арганізацыі тэракту ў менскім мэтро.

Аб выкананьні прысуду Дзмітрыю Канавалаву было абвешчана ў эфіры беларускага тэлебачаньня.

Раней стала вядома аб расстрэле асуджанага разам зь ім Уладзіслава Кавалёва. Пра тое, што ён быў пакараны 16 сакавіка, пісьмова апавясьцілі яго маці. Просьбу Кавалёва пра памілаваньне Лукашэнка адхіліў.

Пратэсты з гэтай нагоды выказалі праваабаронцы, палітыкі, грамадзкія дзеячы, а таксама шматлікія палітыкі з замежжа. Прэзыдэнт Эўрапейскага парлямэнту Марцін



Шульц выступіў з рэзкім асуджэньнем расстрэлу Уладзіслава Кавалёва і даслаў спачуваньні ягонай сям'і.

## Акцыі ў падтрымку пакараных разганяюцца

У Менску каля станцыі метро Кастрычніцкая паставілі партрэт Уладзіслава Кавалёва побач з памятнаю дошкаю ахвярам тэракту. Праз 5 хвілін партрэт быў забраны невядомымі ў цывільным. Людзі таксама нясуць кветкі і ставяць сьвечкі каля дзьвярэй кватэры Кавалёвых у Віцебску. Аднак ім перашкаджаюць амапаўцы, якія пад'ехалі ў двух аўтобусах і дзяжураць каля дому.

## Сяргея Каваленку на Валдарцы кормяць прымусова

Пра гэта «Свабодзе» паведаміў намесьнік старшыні партыі КХП БНФ Юрась Беленькі, які апякуецца сябрам партыі Сяргеем Каваленкам.

«Нам стала дакладна вядома ад крыніцы ўнутры ізалятару, што 16 сакавіка Сяргея Каваленку прывязалі да ложка і прымусова паставілі яму кропельніцу. Пры гэтым, відаць, нешта не ўлічылі, бо падчас працэдуры прымусовага падсілкаваньня у яго пашкодзіліся крывяныя сасуды, утварылася гематома, — паведаміў Юрась Беленькі.

Жонцы Каваленкі афіцыйна паведамілі, што“14.03.2012 году Каваленка С. А. агледжаны дацэнтам катэдры псыхіятрыі і наркалёгіі Беларускай мэдыцынскай акадэміі пасьлядыплёмнай адукацыі. Выстаўлены дыягназ — расстройства адаптацыі... На падставе рэкамэндацый зараз вырашаецца пытаньне аб далейшым лячэньні Каваленкі С. А. ў псыхіятрычнай лячэбнай установе ...”

*Паводле Радыё Свабода*

## <u>Прэс-рэліз</u> “Апошнія падзеі ў Беларусі”



## Канцылярыя Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

“Спачуваю з глыбіні сэрца спадарыні Кавалёвай, маці Ўладзіслава. Цяжка сабе ўявіць большае гора.

Веру адвакатам, што віны гэтых хлапцоў суд адэкватна не даказаў. Непамілаваньне іх і сьпешны расстрэл сьведчаць пра нялюдзкасьць сучаснага рэжыму ў Беларусі. На жаль, дзеля яго Беларусь траціць усе шанцы заняць пачэснае месца ў сям'і народаў Эўропы.

Што да перавозу Сяргея Кавалёва ў псыхіятрычны шпіталь, уважаю гэта проста цынізмам, зьдзекам з тых, хто клапоціцца пра лёс і жыцьцё выдатнага чалавека, адзіная віна якога – любоў да Беларусі.

Вяртаемся назад у турму народаў!"

*Івонка Сурвілла*

## “Ляпіс Трубяцкой” — найлепшы гурт Расеі 2011 году

Беларускі гурт «Ляпіс Трубяцкой» перамог у трох намінацыях расейскай рок-прэміі «Чортаў тузін. Топ 13».

«Гэта вельмі важная для нас перамога, — заявіў кіраўнік гурту Сяргей Міхалок. — „Ляпісы“ — маленькі незалежны анарха-сындыкат, мы не ўваходзім у шоў-бізнэс-кланы, ня ўдзельнічаем у „зоркавых“ тэлешоў, не наведваем сьвецкія раўты... І тым ня менш нас прызналі найлепшым гуртам 2011 году — значыць, мы ідзем правільным шляхам».

«Ляпіс Трубяцкой» нядаўна выпусьціў патрыятычны відэакліп на словы Янкі Купалы «Ня быць скотам», дзе ўдзельнікі зьнятыя ў нацыянальнай вопратцы на тле «Пагоні» і бел-чырвона-белага сьцяга. Адначасна лідэр гурту Сяргей Міхалок пакінуў Беларусь пад пагрозай крымінальнага перасьледу за выказваньні на адрас кіраўніка краіны.

*Паводле Радыё Свабода 12.03.2012*

## Сьв. памяці Янка Кабановіч (1951 - 25 лютага 2012)



25 лютага пасьля цяжкай хваробы ў Рызе памёр беларускі прадпрымальнік і мецэнат Янка Кабановіч.

Янка Кабановіч нарадзіўся ў 1951 годзе ў вёсцы Вышалаў Петрыкаўскага р-на, Палескай вобл. (цяпер Гомельская). Скончыў Гомельскі політэхнічны тэхнікум па спецыяльнасці тэхнік-механік (1969), быў накіраваны на працу ў Рыгу.

У 1991 г. пасля аднаўлення незалежнай Латвійскай Рэспублікі І.Кабановіч стварыў і стаў першым дырэктарам Рыжскага вытворча-камерцыйнага таварыства "Рада". З 1993 г. з'яўляўся прэзідэнтам створанага ім Акцыянернага таварыства "Гандлёвы Дом “Беларусь". У 1993 г. Янка Кабановіч стварыў і да 1996 г. быў першым кіраўніком Асацыяцыі прадпрымальнікаўбеларусаў Латвіі "Беларускі шлях".

Доўгі час сп. Янка быў сябрам Вялікай Рады Згуртавання беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", актыўна падтрымліваў дзейнасць Згуртавання, у тым ліку быў адным з фундатараў Першага з'езду беларусаў свету і вырабу копіі Крыжа Эўфрасіньні Полацкай.

Янка Кабановіч аказваў падтрымку першай беларускай суполцы ў Латвіі - Латвійскаму таварыству беларускай культуры "Сьвітанак", апекаваўся Беларускай мастацкай студыяй "Вясёлка" і Рыжскай Беларускай нядзельнай школай.

У 90-х гадох сп. Янка быў фундатарам Латвійскага фонда беларускай культуры, арганізатарам і фундатарам беларускай газэты ў Латвіі "Прамень", фундатарам мастацкіх выстаў Аб'яднання мастакоў-беларусаў краінаў Балтыі "Маю гонар". Пачынаючы з часу стварэння ў 1994 г. Рыжскай Беларускай асноўнай школы і да сённяшняга часу Янка Кабановіч быў яе фундатарам.

Ён ніколі не чакаў ні падзякаў, ні пашаны, ні славы, ні ўзнагарод. Ён проста жыў так, каб застацца ў памяці сваіх суродзічаў шчырым і адданым беларусам.

Выказваем шчырае спачуваньне родным і блізкім памерлага.

# Памерла Ўітні Х'юстан



Знакамітая амэрыканская сьпявачка памерла 11 лютага 2012 году на 49 годзе жыцьця ў Лос Анджэлесе, куды яна прыляцела для ўдзелу ў цырымоніі ўручэньня прэміі "Грэммі".

Ўітні Х'юстан увайшла ў Кнігу рэкордаў Гінеса, як сьпявачка з найбольшай колькасьцю ўзнагародаў - 6 "Грэммі", 15 прэмій Billboard Music Awards, 21 American Music Awards. Яе альбомы мелі мільённыя продажы.

Пік папулярнасьці Ўітні прыйшоўся на 80-90 гады мінулага стагоддзя.

Супер-зоркаю яна стала пасьля выхаду ў 1992 годзе фільма «Целаахоўнік», дзе яна выканала адну з галоўных роляў у пары з Кэвінам Костнэрам і сьпявала асноўныя музычныя партыі. Сінгл зь песьняй з гэтага фільма I Will Always Love You стаў самым пасьпяховым у кар'еры Х'юстан.





## Віншаваньне

З нагоды Сьвята – 25 Сакавіка віншую з Днём Волі шчырых беларусаў - Ганну Жызьнеўскую, сп-ва Вініцкіх, сп. Шабовіча, сп-ва Верабей, сп-ва Белямукоў, сп. Л. Шурака, сп. М. Дзямковіч і ўсіх былых чытачоў газэты "Рунь".

*З павагаю*
*Павал Саўчанка, Вільня*

## Спачуваньне

Бруклінскі аддзел БАЗА выказвае глыбокае спачуваньне сяброўцы Аддзелу Ганьне Цярпінскай з нагоды балючай страты роднага і блізкага чалавека – маці Людмілы Цярпінскай, якая была актыўнай сяброўкаю БАЗА. Сп. Людміла заўчасна адыйшла ў вечнасьць пасьля цяжкой хваробы, пакінуўшы ў смутку дачку, родных і сяброў.

Мы сумуем разам і з гарычаю перажываем гэтую незваротную страту.

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Юля Андрусышын | $ 50 |
| Наташа і Аляксандр Вакуліч | $ 50 |
| Вольга Грыцук | $ 200 |
| Яўген Кабяка | $ 50 |
| Лявон Кавалаў | $ 60 |
| Кастусь Маталіцкі | $ 50 |
| Юры Новікаў | $ 50 |
| Багдан Павук | $ 50 |
| Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага (Таронта) | $ 100 |
| Анатоль Пранцэвіч | $ 50 |
| Уладзімір Ракуць | $ 100 |
| Сьвятлана Спасіўцава | $ 50 |
| Анатоль Хрэноўскі | $ 20 |
| Мікола Чупракоў | $ 100 |
| Стэнлі Шабовіч | $ 50 |
| Яна Шкабрава | $ 50 |
| Міхась Швэдзюк | $ 50 |
| Антон Шукелойц | $ 50 |
| Сьвятлана Шырвель | $ 50 |

**Шчыры дзякуй усім ахвярадаўцам!**


БЕЛАРУС
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне**

BIELARUS
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
**Belarusan American Ass'n, Inc.**

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая - адказная за камп'ютарную вёрстку
Андрусь Падлескі – сябра рэдакцыі
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыялямі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя :** ***BIELARUS newspaper*** дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email): bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*